ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 45 (144) 1 - 7 сьнежня 1995 г. Кошт 600 рублёў

ПРАФІЛАКТЫКА МАЗГОЎ - ст. 2.

КРАІНА ШТУЧНЫХ ДЭФІЦЫТАЎ - ст. 3.

САЛАДОЎНІКАЎ - ЛЕПШЫ ФУТБАЛІСТ ВОБЛАСЬЦІ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ

**Ва ўсіх 14 выбарчых акругах Гарадзенскай вобласьці прайшоў першы тур выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Аднак з першай спробы ўдалося абраць толькі двух дэпутатаў. У Ваўкавыскай гарадзкой акрузе N 118 ім стаў суддзя Васіль Скок (безпартыйны), які набраў 51,9 працэнтаў галасоў ад 73,2 працэнтаў прыйшоўшых выбаршчыкаў. У Лідзкай сельскай акрузе N 135 дэпутатам абралі старшыню Лідзкага райвыканкаму сп. Блюдніка, які набраў 79,03 працэнтаў галасоў. У Смаргонскай гарадзкой акрузе N 142, дзе балатаваўся Зянон Пазьняк, нягледзячы на тое, што на выбары прыйшло дастаткова шмат людзей (67,5 працэнтаў) ніводзін з кандыдатаў у наступны тур ня выйшаў. Колькасьць галасоў супраць кожнага кандыдата перавышала колькасць галасоў «за». Так, Зянона Пазьняка падтрымала 47,05 працэнтаў, а супраць выказалася 52,07 працэнта. Яго саперніка, Сьвятаслава Савіцкага падтрымалі 40,04 працэнтаў выбаршчыкаў, а супраць прагаласавала 59,08 працэнтаў. У гэтае акрузе будуць прызначаны дадатковыя выбары.**

У астатніх 11 акругах 10 сьнежня пройдзе другі тур выбараў. Прапануем вашай увазе сьпіс кандыдатаў якія прымуць у ім удзел і працэнт галасоў набраных імі ў першым туры. У дужках пасьля назвы акругі - колькасць прыняўшых удзел у выбарах людзей.

*Гродзенская Болдзінская акруга N 121*(79,8 працэнтаў): ***С.Гараеў*** (б/п) - 27,9 працэнтаў; ***Г.Осіпава***(АДПБ) - 20,3 працэнтаў.

*Гродзенская Горкаўская акруга N 122*(50,5): ***С.Мальчык*** (БНФ) - 26,2 ***В.Бурбіцкі*** (ПКБ) - 21,6

*Гродзенская Дзяржынская акруга N 123*(54,1): ***Ч.Бяляўскі*** (б/п) - 24,53 ***В.Задаля*** (БНФ) - 20,79

*Гродзенская Пралетарская акруга N 124*(54,3): ***К.Жынь*** (БНФ) - 22,8 ***А.Танкевіч*** (б/п) - 21,6

*Гродзенская Прынёманская акруга N 125*(53,2): ***М.Маркевіч*** (БНФ) - 24,9 ***В.Жукава*** (ПКБ) - 17,1

*Гродзенская Сувораўская акруга N 126*(50,2): ***Л.Школьнік*** (б/п) - 20,6 ***І.Нячай*** (ПКБ) - 18,2

*Гродзенская сельская акруга N 127*(59,3): ***Т.Гавін*** (б/п) - 30,4 ***У.Ражко*** (б/п) - 17,1

*Лідзкая Чырвонаармейская акруга N 133*(62,8): ***Я.Енка*** - 23,1 ***С.Лазарэвіч*** (БНФ) - 20,0

*Лідзкая Камсамольская акруга N 134*(58,5): ***П.Ярошка*** (ПКБ) - 27,6 ***С.Суднік*** (БНФ) - 25,5

*Слонімская гарадзкая N 140* (69,4): ***М.Дмухоўскі*** (ПКБ) - 23,4 ***А.Якімовіч*** (БНФ) - 18,5

*Астрынская акруга* (71,6): ***С.Домаш*** (б/п) - 39,9 ***Снапкоў*** (б/п) - 22,2

Такім чынам у другі тур выйшлі 7 прадстаўнікоў БНФ, 5 камуністаў, 1 член АДПБ і дзевяць беспартыйных. Можна сьмела прагназаваць, што ў другім туры выбары напэўна адбудуцца ў Гродзенскай-Болдзінскай акрузе, а таксама ў Слоніме і Астрыне. Лёс кандыдатаў у дэпутаты па іншых акругах будзе залежаць ад таго, наколькі ўлады будуць зацікаўлены ў тым, каб людзі і 10 сьнежня прыйшлі на выбарчыя ўчасткі.

## ПРАВАКАЦЫЯ!

Напярэдадні выбараў у Дзяржынскай выбарчай акрузе зьявіліся самаробныя ўлёткі, у якіх на мове - трасянцы заклікалася «Жыды - гэць з Беларусі!», «Далоў іудэонацызм». Камусьці вельмі хацелася, каб улётка выглядала як справа рук БНФ. Ды толькі самыя недасьведчаныя людзі, ці, лепш сказаць, дурні, могуць уявіць сябе, што беларус будзе некага выганяць з сваёй зямлі! Тыя ж габрэі ў сярэднія стагоддзі, калі ў Эўропе палалі вогнішчы інквізіцыі, шукалі паратунку ў беларускіх гарадах і мястэчках і знайшлі яго. Беларусь ніколі не спазнала габрэйскіх пагромаў, якія хвалямі каціліся па Расіі. У гады апошняй вайны беларусы выратавалі тысячы габрэяў, хавалі іх у сваіх хатах. Многім гэта каштавала жыцьця. Пасьля вайны нашыя бацькі і дзяды разам прайшлі праз Гулагі. Дык няўжо пасьля гэтага ў беларуса магла падняцца рука на суседа-габрэя?

Толькі чужынец мог напісаць гэтыя словы. А каму ня месца на нашай зямлі - дык гэта чужынцам.

## ГАРАЕЎ ПАЛЯЦІЦЬ З РАБОТЫ?

Як вядома, на прэс-канферэнцыі з журналістамі напярэдадні выбараў прэзідэнт заўважыў, што людзі з прэзідэнцкай адміністрацыі, якія выставілі свае кандыдатуры на гэтыя выбары, паляцяць з работы. Па гарадзенскай Болдзінскай акрузе N 121 балатаваўся і выйшаў у другі тур начальнік Галоўнага ўпраўлення службы кантроля прэзідэнта па Гарадзеньскай вобласці Сяргеи Гараеў. Зыходзячы з гэтага, можна чакаць, што пасьля выбараў сп. Гараеву прыйдзецца шукаць іншае месца працы.

**ВІКТАР ЛЮДВІКОВІЧ**

## ЧАРГОВАЯ СТАБІЛІЗАЦЫЯ ЦЭНАЎ

У мінулую пятніцу Гарадзенскі аблвыканкам прыняў рашэньне ў сувязі з ростам цэнаў на паліўна-энергетычныя, матэрыяльныя і іншыя рэсурсы, адсутнасьцю сродкаў бюджэту на вяртаньне стратаў ад перавозкі пасажыраў у гродзенскім транспарце павялічыць з сёньняшняга дня кошт праезду ў гарадзкім транспарце. Так. талон на аўтобус і тралейбус каштуе ўжо 800 рублёў (да гэтага 600). Льготнікі змогуць набыць талоны за палову кошту. Адпаведна падаражэлі і праязныя білеты: на аўтобус ці тралейбус да 32 тысячаў, а агульны - да 40 тысячаў.

Многія жыхары Горадні даведаліся пра павышэньне коштаў ужо ў панядзелак, калі кіроўцы некаторых аўтобусаў і тралейбусаў дабразычліва пачалі пасажырам раіць набываць «апошнія танныя талончыкі». Скарыстаўшы параду, на маіх вачах адна кабета набрала талонаў аж на 60 тысячаў.

На фоне аптымістычных заяваў ураду аб стабілізацыі цэнаў рашэньне нашых уладаў выглядае досыць дзіўным. Ці то «бацька» не дагледзеў, ці то пра стабілізацыю ў Горадні першы раз чуюць.

**ВІНЦУК МАЛЬСКІ.**

## ЗАБУДОЎШЧЫКІ КАТЭДЖАЎ ВЫМУШАНЫ КРАСЬЦІ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ

Ва ўмовах энергетычнага «голаду» у Беларусі ўзьнік новы від праваларушэньняў - скраданьне электраэнергіі. На працягу кастрычніка-лістапада гэтага года супрацоўнікамі энерганагляду і міліцыі праведзены праверкі энергазабесьпячэньня жылых дамоў і катэджаў. Высьвятлілася, што многія ўладальнікі дамоў нелегальна падключаюцца да лініі электраперадач і ня плоцяць за выкарыстаньне электрычнасьці ні рубля. У прыватнасьці было выяўлена 933 факты скраданьня электраэнергіі. Зладзеі скралі 3 мільёна 821 тысячу квт. гадзін электраэнергіі, кошт якой склаў 995,6 мільёна рублёў. Прычым, часьцей і больш за ўсё скрадалі электраэнергію ў Віцебскай вобласьці - 262 факты скраданьня на суму 431,6 мільёна рублёў. Цікава, што многія з парушальнікаў сталі злодзеямі не па ўласнай волі. Справа ў тым, што многія забудоўшчыкі катэджаў згодны былі б законна электрыфікаваць свае дамы і плаціць, але мясцовыя ворганы ўлады ім адмаўляюць, бо ня маюць патрэбнага абсталяваньня для перадачы электраэнергіі. Таму такія ўладальнікі дамоў, якія падключыліся да электралініяў самастойна, пэўна лічаць, што ім ня трэба плаціць за электраэнергію.

**СІМ**

## «ПРОСИМ ПРОВЕСТИ РАБОТУ»

Вось такую тэлеграму атрымаў калгас імя Леніна Берастаўіцкага раёну ад старшыні выканкаму Берастаўіцкага райсавету.

«Председателю колхоза.

Просим вас провести работу по широкой пропоганде доклада президента РБ на совещании руководящей и исполнительной власти после 20 - 21 11.95 и других документов с населением и общественностью. Информировать об исполнении 30.11.95.

27.11.95 М.М.Захарчук»

ПАГОНЮ хоць ніхто і не прасіў прапагандаваць такую лёсавызначальную падзею ў жыцьці краіны, застацца ў баку мы не змаглі. І таму ўносім свой сьціплы ўклад у справу павышэньня сьвядомасьці беларускага народу. Чытайце другую старонку газеты.

### УВАГА!

Паважаныя сябры! Тыя, хто хоча і можа аказаць практычную падтрымку ініцыятыўнай групе кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савету Міколы Маркевіча, просім прыйсьці ў рэдакцыю «Пагоні» 4 сьнежня а 19-ай гадзіне.

### *ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ!*

На **"ПАГОНЮ"** Вы можаце падпісацца ў любым аддзяленьні сувязі. Кошт падпіскі на паўгоддзе - 48 тысяч рублёў, на квартал - 24 тысячы, на месяц - 8 тысяч рублёў.

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёньня!**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

ПАГОНЯ

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар

на газэту 63124

ПАГОНЯ

Кошт: падпіскі 48000 руб.; пераадрасоўкі руб.

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ИЗ ИНТЭРВЬЮ ПРЕЗИДЕНТА БЕЛОРУСИ А.ЛУКАШЕНКО

### корреспонденту немецкой газеты «Хандельсблат» МАРКУСУ ЦИММЕРУ /передано по белорускому радио 23 ноября 1995 г. 19.50/.

**Вопрос:** *в восточно-европейских странах сейчас ведётся дискуссия по поводу того, какая модель демократии является оптимальной: с сильной президентской властью или сильной парламентской властью. Если я правильно понимаю, вы выступаете за сильную президентскую власть. Как вы считаете, это оптимальная модель для Республики Беларусь?*

**А.ЛУКАШЕНКО:** Знаете, так нельзя ставить вопрос. Поверьте, история Германии - это слепок истории в какой-то степени Беларуси на определенных этапах. В свое время Германия была поднята из руин благодаря очень жесткой власти. **И не все только было плохое связано в Германии и с известным Адольфом Гитлером.**



ЗДЫМІ МАСКУ, ФАНТАМАС! Г.С.

Он перечеркнул все хорошее, что он сделал в Германии, всей внешней политикой и развязал Вторую мировую войну. Ну, а все остальное уже вытекало из этого. Это гибель людей массовая, в том числе и немецкого народа. Но вспомните его власть в Германии. Нас с вами тогда не было, но по истории мы это знаем.

**Ведь немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки.**

**Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента.**

То есть я хочу конкретизировать, чтобы вы не подумали, что я приверженец Гитлера. Нет, я подчеркиваю, что не может быть в каком-то процессе или в каком-то человеке все черное или все белое. Есть и положительное. Гитлер сформировал мощную Германию благодаря сильной президентской власти. Это были 30-е годы, время сильного кризиса в Европе, а Германия поднялась благодаря сильной власти, благодаря тому, что вся нация сумела консолидироваться и объединиться вокруг лидера.

**Сегодня мы переживаем такой же период времени**, когда нужна консолидация вокруг одного или группы людей, чтобы выжить, выстоять и подняться на ноги. Поэтому на этом этапе определяющее значение, ведущее, я бы сказал, значение будет иметь глава государства - президент, в усилении власти которого нет необходимости сегодня. **У президента достаточно власти.** Поэтому наш этап истории отличается от соответствующего этапа немецкой истории тем, что нам нет необходимости устанавливать абсолютную власть одного человека.

***

**Каментарый, здаецца,не патрэбны**

## ПРАФІЛАКТЫКА МАЗГОЎ

Два дні ўладальнікі тэлевізараў марна спрабавалі наладзіць свае антэны на Пецярбургскі канал. Рэч у тым, што па тамтэйшаму ТБ у панядзелак павінна была выйсьці передача з удзелам парламанцкай апазіцыі БНФ. «Вынаходлівыя» беларускія тэлевізіёншчыкі тэрмінова распачалі тэхнічныя прафілактычныя работы. Так галоўныя ідэолагі краіны клапацяцца пра цноту мазгоў нашага электарату. «Дзякаваць» вялікаму аматару рухавых гульняў і «гимнастачак» павінны і заўзятары футболу - за няўбачаную праму трансляцыю з Токіа фіналу Міжкантынентальнага кубка.

**МАРЦІН КАЛАМУТНЫ.**

## ПРАВАВЫ ЧАРНОБЫЛЬ

Як паведаміў на сваёй прэс-канферэнцыі Мечаслаў Грыб у краіне дэ-факто ўведзена прамое прэзідэнцкае кіраваньне. " У Беларусі не выконваюцца законы, прэзідэнтам ігнаруюца рашэньні суда, у тым ліку і канстытуцыйнага. Я не разумею, што гэта за антынацыянальная: антынародная дыктатура" - заявіў М.Грыб. Сітуацыю з захаваньнем законносьці спікер ахарэктэрызаваў як "прававы Чарнобыль, а можа быць, і горш",

Камянтуючы рашэньні КС аб пераглядзе рашэнняў аб працэнтнай квоце другога тура выбараў, спадар Грыб заявіў: "Канстытуцыйны суд ня мае права адмяняць рашэньня парламанту. Калі ж КС вярнуў старую квоту, то мы здымаем усялякаю адказнасьць за зрыў выбараў".

**СІМ**

## ХЛУСЬНЯ

**Пасьля выступу Прэзідэнта на рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў выканаўчай улады ў «ПАГОНЮ» неаднаразова тэлефанавалі ўсхваляваныя й абураныя чытачы: у сваім выступе Лукашэнка ўзгадвае і «ПАГОНЮ», адзываючыся аб ёй мякка кажучы «нелестно». Але ў друку ў тэксьце выступу назва «ПАГОНІ» ўвогуле ня ўзгадвалася! Што ж, карэктавалі ў свой час словы Брэжнева, карэктуюць і Лукашэнку. Але ці можна адкарэктаваць хлусьню, якая выпадкам ліецца з вуснаў першай асобы краіны? Не! Як бы не стараліся гэта зрабіць «замяталінскія карэктары». Хлусьню можна толькі выкрыць! Прапануемы вашай увазе кавалак выступу прэзідэнта - узор непрыхаванай ілжы і цынізму, якія маюць на мэце перакласьці адказнасьць за тое, што дзеецца ў краіне з хворай галавы на здаровую.**

Я скажу больш. Сёньня радыкал-нацыяналістычная апазіцыя пры падтрымцы ценявых мафіёзных структур у поўным сэнсе слова імкнецца да ўлады, да бязьмежнай дыктатуры. Ускормленыя на «брудныя» грошы палітыкі і сродкі масавай інфармацыі нагнятаюць у грамадстве масавы псіхоз, нацкоўваюць насельніцтва на дзяржаўныя структуры, на Прэзідэнта.

Усе іх разважаньні аб свабодзе друку, вяршэнстве закона - ня больш чым прапагандысцкае прыкрыцьцё адкрытай прагі рэваншу за зьнішчальнае паражэньне, якое пацярпела апазіцыя на прэзідэнцкіх выбарах, на першым этапе выбараў у парламант і ў ходзе рэферэндуму. Вельмі шкада, але і на другім флангу ім пачынаюць падпяваць учарашнія непрымірымыя. Усе яны аб'ядналіся ў барацьбе супраць Прэзідэнта. Ну што ж! Справа Ваша...

Паглядзіце, як ліхаманкава праводзяць яны свае зьезды, кангрэсы, сімпозіумы, «круглыя сталы», раздаюць адзін аднаму доларавыя «кармавыя». На гэтых сходах, фінансуемых з добра вядомых крыніц, ужо адкрыта гучаць заклікі выводзіць народ на вуліцы.

Таварышы кіраўнікі! Не жывіце ілюзіямі. Калі нацыяналістычная суполка «спадароў» установіць сваю дыктатуру, для многіх з Вас і Вашых сем'яў адразу ж паўстане пытаньне аб асабістай бясьпецы. Галоўная ж задача нацыяналістычнай дыктатуры - усталяваць уладу крымінальнага капіталу і крымінальнай мафіі, каб канчаткова разрабаваць і вывезьці ў чужыя банкі народны набытак. Нездарма для іх ідэалам зьяўляецца недалёкая прыморская дзяржава, дзе трэць валавога нацыянальнага прадукту забясьпечваецца за кошт кантрабанды зброі і наркотыкаў, яшчэ адна трэць - за кошт кантрабанды каляровых металаў і толькі трэць - за кошт уласнай вытворчасьці. А што датычыць палітычнай сітуацыі, то амаль палова насельніцтва гэтага вельмі невялікага па тэрыторыі прыморскага «раю» поўнасьцю пазбаўлена элементарных палітычных, сацыяльных і эканамічных правоў, аб парушэньні якіх была афіцыйная заява ААН.

У мяне моцныя нервы. Ня выйдзе, панове! У полымі агрэсіўнай балбатні і абяцаньняў, якое вы разьдзімаеце, зграраць, перш за ўсё, вашы амбіцыі і дамаганьні на антынацыянальную і антынародную дыктатуру. Але і вы, кіраўнікі выканаўчай улады на месцах, не павінны сядзець склаўшы рукі. Вы абавязаны, абапіраючыся на канстытуцыйныя нормы, у кожнай вобласьці, у кожным раёне пакласьці канец разгулу экстрэмісцкіх і мафіёзных элементаў, пад якімі б перавернутымі лозунгамі яны ні выступалі. І гэта - ваш прамы абавязак перад народам.

## ЯК ПАСВАРЫЛІСЯ ДЭМАКРАТ ІВАНАВІЧ З ДЭМАКРАТАМ НІЧЫПАРАВІЧАМ

Што за палітык Дэмакрат Іванавіч! Роўных яму няма на ўсёй Беларусі. А як шыкоўна ён выглядае на трыбуне Вярхоўнага Савету! Цыцэрон, ды годзе! А ўжо калі пачне разважаць аб дэмакратыі - як салавей пяе. Не, калі гэткіх палітыкаў нараджае зямелька наша - ня згіне сьвятая дэмакратыя.

А што за чалавек Дэмакрат Нічыпаравіч! Які мяккі, рахманы, лагодны. Але за родную дэмакратыю ён гарою стаіць, супраць усялякага дэспатызму і таталітарызму. А калі ўбачыш яго на мітынгу - уначы не засьнеш, асабліва калі ты дзяўчына - прыхільніца дэмакратыі. Увесь час будуць мроіцца яго рэдкія кудры, яго позірк праз таўсьценныя акуляры.

А як паважаюць гэтыя Дэмакраты з вялікай літары адзін аднаго! Інакш, чым «шаноўны», «паважаны», «глыбокапаважаны», «мой таленавіты калега» не называюць. Бо абодва яны дзеці адной маці - славутай Дэмакратыі.

А ці чулі Вы, што адбылося паміж імі гэтай восеньню?

Прыйшоў час складаць спіс кандыдатаў у дэпутаты. Сустрэліся Дэмакрат Іванавіч з Дэмакратам Нічыпаравічам і пайшлі разважаць.

- На першае месца,- кажа дэмакрат Іванавіч,- паставім сваіх, а потым - што застанецца - і вашых.

- Прабачце,- кажа Дэмакрат Нічыпаравіч,- як гэта - што застанецца? А хіба гэта не мы ў свой час амаль што ўзялі ўладу ў рэспубліцы? Толькі сотні тры галасоў у Вярхоўным Савеце не хапіла.

- Не,- адмовіўся Дэмакрат Іванавіч,- гэта наш кандыдат на выбарах прэзідэнта заняў ганаровае трэцяе месца ззаду. А ваш і наогул не трапіў у спіс.

- А ня трапіў,- кажа Дэмакрат Нічыпаравіч,- бо вы разам з камуністамі нас не падтрымалі. І наогул, што вы рабілі да 1986 года?

А Дэмакрат Іванавіч на гэта кажа:

- А вы, Дэмакрат Нічыпаравіч, самы сапраўдны папуліст!

Калі б не казаў гэта Дэмакрат Іванавіч, можа ўсё б абыйшлося. Але гэта якая ж пагарда - на ўсю перадвыбарную кампанію!

І вось зараз усе судзейскія, і чыноўныя, і нават некаторыя, што раней сябравалі з абоімі Дэмакратамі ад рогату трымаюцца за жываты. А між імі бойка ідзе не на жывот , а на сьмерць. І ўсе свае дэмакратычныя набыткі яны дзеляць як муж з жонкай, калі разыходзяцца. Кажуць, што сам прэзідэнт амаль што паўгадзіны рагатаў, калі пачуў пра гэта.

А што рабіць нам, дэмакратам з малой літары?

**МІКАЛАЙ ГОГАЛЬ**

## КАРУПЦЫЯ, ЯК ПУНКТ АПОРЫ СІСТЭМЫ КІРАВАНЬНЯ

**«Дайце мне пункт апоры, і я перавярну ўвесь сьвет», - казаў вялікі Архімед. «Дайце мне дасье на кожнага, і я змагу кіраваць усім сьветам», - кажа прэзідэнт Лукашэнка, а калі ня кажа, то думае, калі ж ня думае, то так кажуць, думаюць і дзейнічаюць ягоныя набліжаныя і давераныя. Такую выснову можна было зрабіць, назіраючы за падрыхтоўкай і ходам шматлікіх сустрэч прэзідэнта з кіраўнікамі розных рангаў і розных арганізацый.**

Так, перад сустрэчай з кіраўніцтвам афіцыйных прафсаюзаў дыктар тэлебачаньня бадзёра заявіла, што на гэтай сустрэчы ў прэзідэнта цяжкасьцяў ня будзе, бо ў яго, маўляў, на кожнага шмат чаго ёсьць. Трэба меркаваць, кампрамату. Прыкіньце, як павінен весьці сябе чалавек, якому перад сустрэчай з Прэзідэнтам паказалі ўласнае дасье. Павінен сядзець, маўчаць, ківаць галавой і з усім згаджацца, калі ня хоча, каб справе далі ход. «Лухта, - скажаце вы. - Калі чалавек сумленны, дык чаго яму баяцца?» Дык то ж калі сумленны, але дзе вы тых сумленных возьмеце? Хто сёньня займае ўсе кіраўнічыя пасады, хто ў вертыкалі, у прафкамах, заўкамах, хто нам «мама» і «тата»? Мо людзі з нізоў, мо дэмакраты? Не і яшчэ раз не!

Каля кнопак і кнопачак, каля рычагоў і рычажкоў машыны ўлады стаяць, сядзяць, ляжаць былыя: былыя начальнікі, сакратары, інструктары, інсьпектары, адным словам - былыя члены авангарду савецкага народу, розуму, гонару і сумленьня вялікай і магутнай КПСС, былыя камуністы і камунісьцікі. А дзе вы бачылі сумленнага камуніста? Такіх не было, няма і быць ня можа. Таму, што ня можа быць ніколі. Уся камуністычная ідэалогія заснаваная на гвалце. Адабраць і падзяліць - вось асноўныя прынцыпы камунізму. І калі ў тэорыі меркавалася дзяліць пораўну, хоць і не канкрэтызавалася паміж кім, то на практыцы дзялілі далёка ня так.

Асабліва забыўчымі на роўнасьць сталі таварышы ў апошнія гады. Пакідаючы тонучую баржу КПСС, верныя ленінцы імкнуліся прыхапіць як мага болей, і ня толькі з маёмасьці партыі. Гэта яны, апанаваўшы ўсе суполкі ўлады, разьвілі інфляцыйныя працэсы, абабралі народ і стварылі першапачатковы капітал, хто ў выглядзе крамы, хто катэджа, хто валютнага рахунку. Гэта яны правялі «прыхватызацыю» і нахапалі, колькі маглі. І таму менавіта на іх наш галоўны антыкарупцыянер мае шмат кампрамату. Ён, безумоўна, хацеў бы мець кампрамат і на Пазьняка, але той нават цьвікоў ня краў. Няма кампрамату і на іншых кіраўнікоў Беларускага Народнага Фронту. Затое ёсьць на кіраўнікоў астатніх партый і рухаў. І вось зараз давайце ўявім той «круглы стол», гавэнды пра які ўжо набілі аскому. Сядаюць за стол кіраўнікі партый і рухаў, і кожны ведае, скажаш ня ў масьць, і пачынай варушыць мазгамі, як выкруціцца ці са скандалу, ці з крыміналу. Таму будзе той стол хутчэй падобны на раяль з адным клавішам, дзе кожная струна будзе гучаць па-свойму, але аднолькава прыемна для прэзідэнта.

Добра спрыяе такое кіраваньне і таму, каб трымаць на кароткім павадку дырэктараў прадпрыемстваў, банкаў, старшыняў калгасаў і г.д. У гэтай кагорце сьвятых таксама няма. За кожным нешта ёсьць. Ледзь высунуўся ня ў такт, а тут ужо і прэзідэнцкая камісія, якая дакладна ведае, дзе і што шукаць Асабліва лёгка прыблытаць любога дырэктара па артыкулу «Неатрыманы прыбытак». Тут і Форд не адкруціўся б.

Не, дарэмна вы, спадары дэмакраты, крытыкуеце прэзідэнта за непамернае раздуваньне штатаў Міністэрства ўнутраных справаў. Вы проста ня ведаеце, колькі ў іх працы. Гэта ж трэба сабраць матэрыялы на кожнага: ад дзядзі Васі-конюха да міністра, каб забясьпечыць бесперабойнае функцыянаваньне машыны ўлады, бо ў наш час усе сталі такімі языкатымі, што пакуль якому-небудзь не засьвеціць гады тры месцаў ня надта далёкіх, - ня змоўкне. А каб засьвяціла, трэба вой як працаваць.

Што ж, вяршыня ўлады сьлізкая. Кожны шукае свой пункт апоры. Хто абапіраецца на любоў і давер народу, хто на сілу і гвалт, а хто на карупцыю. І невядома, чый пункт апоры трывалейшы. Ва ўсякім разе Лукашэнку пакуль нічога не пагражае, бо беларусы красьці не перасталі і ў бліжэйшы час наўрад ці перастануць, асабліва тыя, хто пры ўладзе.

**Язэп АБУХОВІЧ.**

ГРАМАДЗТВА

## НАРОДНАЕ - НЯ РОДНАЕ?

**24 лістапада ля ўваходу на фабрыку мастацкіх вырабаў «Сузор'е» было даволі тлумна. Работніцы фабрыкі імкнуліся патрапіць на тэрыторыю роднага прадпрыемства. На мэце стаяла правядзеньне агульнага сходу з жаданьнем выказваньня недаверу цяперашняму кіраўніцтву «Сузор'я».**



Уваходныя дзьверы, аднак, так і не расчыніліся - адміністрацыя фабрыкі на чале з дырэктарам Міхаілам Балоціным проста праігнаравала памкненьне сваіх падначаленых. Натоўп жанчынаў скіраваўся ў бок суседняй школы N 1, дзе абураныя працаўніцы знайшлі прытулак у актавай залі. Натуральна, што першасным паўстала пытаньне пра кворум працоўнага сходу і адпаведна правамоцнасьць яготых выраканьняў. Прысутная загадчыца аддзела кадраў ня здолела (ці не захацела?!) прывесьці дакладную колькасьць людзей у працоўным штаце, назваўшы спачатку лічбу 417, пасьля 371. Тэрміновы падлік выявіў наяўнасьць у залі толькі паўтары сотні людзей. Стала зразумелым, што ўсе рашэньні сходу могуць насіць характар толькі своеасаблівага «мяккага рэйтынгавага галасаваньня». У цэнтры абмеркаваньня стаяла асоба сп.Балоціна - дырэктара фабрыкі. Выступоўцы скардзіліся на невыносныя ўмовы працы (у пашывачным цэху - 7° С, у эксплуатацыйным - каля 2 градусаў), на пастаянную затрымку заробкаў платы. Дырэктара (які, нягледзячы на асабістае запрашэньне, так і не зьявіўся на вочы працаўнікоў) вінавацілі ў стварэньні становішча, калі людзі змушаны звальняцца, ісьці ў адпачынак за свой кошт (афармляецца гэта часьцяком ранейшымі датамі).

Яшчэ пару гадоў таму на фабрыцы працавала каля 1400 чалавек, зараз іх колькасьць скарацілася ў чатыры разы. За мяжой купляліся дарагія кампутары, абсталяваньне, якія амаль не задзейнічаны, тым часам прадпрыемства страціла ўнікальных сьпецыялістаў. Падкрэсьлівалася, што калі "Сузор'е " працавала на арэндзе, усе былі задаволены. Пасьля прыватызацыі фабрыкі распачаліся адмоўныя тэндэнцыі. Многія акцыянеры засталіся «з носам», іншыя ўжо ні на што ня маюць спадзяваньняў.

Адна з галоўных бедаў працаўнікоў нашых прадпрыемстваў -элементарная юрыдычная недасьведчанасьць, няведаньне сваіх правоў і паўнамоцтваў. Яны самі сябе заганяюць у пастку - выйсьця з якой часьцяком няма. Некаторыя гэта пачынаюць разумець - чатыры чалавекі на фабрыцы мастацкіх вырабаў ужо ўступілі ў незалежны прафсаюз.

Застаецца дадаць, што на сходзе прысутнічалі адказныя ўладныя асобы на чале з Валянцінай Лаўцэль - намесьніцай старшыні гарвыканкаму па эканоміцы. Яны кваліфікавана адказалі на зададзеныя пытаньні.

Учора меўся адбыцца паўторны сход працоўнага калектыву фабрыкі. Пра яго вынікі мы паведамім у бліжэйшым нумары.

**Хельмут Каменскі.**

**Нават фабрычным сабакам млосна**

**Фота А.Уладасевіча**

## КРАІНА ШТУЧНЫХ ДЭФІЦЫТАЎ

У адным з восеньскіх нумароў «ПАГОНІ» паведамлялася, што на заводзе карданных валоў спынена вытворчасьць аўтамабіляў для інвалідаў. Міністэрства сацыяльнага забесьпячэньня Беларусі вырашыла, што выгодней атрымоўваць гэтыя машыны з Украіны. Між тым, толькі ў Горадні на чарзе стаіць 70 інвалідаў вайны і 460 інвалідаў іншых катэгорый.

Нядаўна для таго, каб выдзеліць аднаму з іх дэфіцытны транспартны сродак, спатрэбілася нават сьпецыяльнае рашэньне аблвыканкаму. Трэба чакаць, што ў хуткім часе выканаўчую ўладу літаральна засыплюць заявамі іншыя інваліды. У краіне штучна створаных дэфіцытаў людзям дапамагаюць толькі тады, калі яны паабіваюць ногі аб «высокія пароі» і зразумеюць сваю мізэрнасьць перад тварам улады.

## «НАКРУТКА» НА ГАРЭЛКУ - 150 ПРАЦЭНТАЎ

Тыдзень таму гарадзенскі аблвыканкам устанавіў для прадпрыемтсваў грамадзкага харчаваньня ўсіх формаў уласнасьці крайнюю мяжу на віна-гарэлачныя вырабы. Прадпрыемствы І і ІІ катэгорый атрымалі права фармаваць «эканамічна абгрунтаваныя» нацэнкі, зыходзячы з фактычных выдаткаў абароту, усіх відаў падаткаў, попыту і г.д., але "накрутка" не павінна перавышаць устаноўленую мяжу.

Так, максімальная мяжа нацэнак на разлыўное піва на прадпрыемствах вышэйшай і першай катэгорыі не павінна перавышаць 60 працэнтаў; на віна-гарэлачныя вырабы на ўсіх прадпрыемствах мяжа ўстаноўлена ў 150 працэнтаў. Гэта азначае, што максімальны кошт гарэлкі ў рэстаранах ня будзе перавышаць 65 тысячаў рублёў за паўлітровую пляшку. Для багатых ня так і шмат, а бяднейшыя як хадзілі са сваёй гарэлкай у рэстарацыі, так і хадзіць будуць.

## НА «УСУШЦЫ» І «УТРУСЦЫ» - ПАЛОВА ПРАДУКЦЫІ

Больш паловы выраблена ў горадзе прадукцыі сёньня залежваецца на складах. У прамысловасьці Гародні запасы ад месячнай вытворчасьці складаюць 39 працэнтаў. Найбольш перагружаныя склады прадзільна-ніткавага аб'яднаньня - 155 працэнтаў (!), гарбарнага завода - 111 працэнтаў, вытворчага аб'яднаньня «ХВАЛЯ» - 91 працэнт, і пальчаткавай фірмы «АКЦЭНТ» - 78 працэнтаў. Дзейсным сродкам разгрузкі складоў было б зьніжэньне коштаў прадукцыі, але гэта адаб'ецца на заробнай плаце. Калі на гарбарным заводзе яе сярэдні памер складае 1624 тысяч і страта, дапрыкладу, сотні тысячаў, істотна кішэню не спустошыць, то для рабочых «АКЦЭНТА», якія зарабляюць у сярэднім 409 тысячаў, тая ж сотня - грошы значныя.

**В.ДРЭМА.**

## САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ФЕАДАЛІЗМ

Памятаеце, як у савецкіх падручніках па гісторыі пісалі пра панскі прыгнёт над сялянамі ды рабочымі. Гнулі і гнулі сьпіну бедныя людзі на гаспадароў за капейку, аж пакуль з дапамогай бальшавікоў ня сталі сьвядомымі ды ня скінулі эксплуататараў.

Сёньня людзі па-ранейшаму гнуць сьпіну. Толькі ня ведаюць - на каго і за што. Некалькі месяцаў ужо не атрымліваюць заробку, і невядома з каго патрабаваць.

Так, з ліпеня не атрымоўвалі грошай на тонкасуконным аб'яднаньні і заводзе зборнага жалезабетону. З жніўня - на металаапрацоўчым заводзе і аб'яднаньні надомнай працы. З верасьня - на аб'яднаньні «Гроднадрэў». Пры гэтым з усіх трыбунаў людзей навучаюць - сядзі ў будзе і чакай, што будзе. Сьвядомыя людзі больш нікому не патрэбны ...

**Р. ВЕРАС.**

## ДАХЛАВАТЫЯ КУРАНЯТЫ

**Папярэднія вынікі 1995-га сельскагаспадарчага года.**

***(з выступу міністра сельскай гаспадаркі ценявога кабінета БНФ «Адраджэньне» акадэміка Івана Нікітчанкі)***

Калгасы і саўгасы забясьпечаць сёлета патрэбы насельніцтва ў мясе на 60%: дадуць кожныя 40 кг з неабходных 72 кг; у малацэ на 70%: дадуць 270 кг з 420 кг; у збожжы на 72%. Гародніны ў магазінах практычна ня будзе. Страты ў выніку безгаспадарчасьці і крадзяжу сёлета склалі адну трэць ад таго, што было за папярэднія чатыры гады. Гэтыя страты ў грашовым эквіваленьце раўняюцца ўсёй вытворчасьці жывёлагадоўлі Гарадзенскай вобласьці за год.

Прадукты ў магазінах прадаюцца па цэнах у пяць разоў большых, чым тыя, па якіх яны закупляюцца ў вытворцаў. Малако закупляецца ў калгасах і саўгасах па 1200 рублёў за кілаграм. Малочная прадукцыя ў магазінах па 600 рублёў. Жыта закупляецца па 750 рублёў за кілаграм. З кілаграма атрымоўваецца 1,4 кілаграма хлеба па цане ўжо больш 2000 за булку ў 800 грамаў. Мяса закупляецца па 7-11 тысяч рублёў. У магазіне самае таннае - па 23000, а каўбасы ўжо сягаюць да 70000 за кілаграм.

Ва ўсіх нашых суседзяў ад Латвіі да Польшчы прадукты ў два разы таньнейшыя, чым у нас. Але калі прывезьці іх да нас, то цана ўзрастае ў 2,3 разы за кошт 15% мытных збораў і 10-15% падатку на дабаўлены кошт, плюс усе астатнія падаткі. Такім чынам цэны на імпартныя прадукты становяцца большыя, чым на свае, але сваіх не хапае. Таму цэны на прадукты айчыннай вытворчасьці падымуцца да імпартных.

Прэзідэнт «падкарэктаваў» бюджэт. Зараз 23,2% даходнай часткі фармуюцца за кошт розных набораў з насельніцтва, акрамя падаткаў. 27% расходнай часткі прызначана для крадзяжу. Залатая жыла для злодзеяў - Чарнобыльская праграма. Толькі на дэзактывацыю выдзелена 2,4 трыльёна рублёў. Але ў сьвеце не існуе тэхналогіі такой масавай дэзактывацыі. Таму гэтыя грошы зьнікнуць, як і зьнікалі дагэтуль.

Канстытуцыйны Суд прызнаў незаконнымі папраўкі Прэзідэнта да бюджэту, але грошы ўжо ня вернеш. Хіба толькі праз суд. Але ў нашай краіне такога суда ня знойдзеш.

## АМЕРЫКАНЕЦ У ІВЕЙСКІХ ФЕРМЕРАЎ

Зараз кожная пятая фермерская гаспадарка Гарадзенскай вобласьці знаходзіцца ў Івейскім раёне. Іх тут каля 60 і валодаюць усе разам 470 гектарамі зямлі.

Пра нялёгкае жыцьцё фермераў і надзённыя праблемы гаварылася тыдзень таму на раённай канферэнцыі сяброў асацыяцыі сялянскіх і фермерскіх гаспадарак Івейшчыны. Акрамя суседзкай пароды і добразычлівых пажаданьняў удзельнікі канферэнцыі змаглі атрымаць адказы на пытаньні ад прадстаўніка Саюзу фермераў краіны Уладзіміра Шчукіна і ад дырэктара па сувязях з грамадзкасьцю Саюзу фермераў штата Паўднёвая Дакота Чарльза Гроса са Злучаных Штатаў.

Ашчасьлівілі канферэнцыю сваёй прысутнасьцю і мясцовыя начальнікі.

**ЗЬМІЦЕР СЬВІСТУНОВІЧ.**

## КАЛІ БОГ НА ДРУГІМ ПЛАНЕ

**Пра пазіцыі кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы на Беларусі адносна Беларускага Народнага Фронту ілюзій ніколі не ўзьнікала. Укамплектаваная выключна выхадцамі з Расеі яна стаіць на больш цьвёрдых імперскіх пазіцыях, чым нават Жырыноўскі са сваімі ліберал-фашыстамі. Калі Філарэт ці яго епіскапы кажуць пра адзінства і веру, то трэба разумець адзінства ў складзе Расеі і веру расейскую. У гэтым рэчышчы ідзе выхаваньне і ў духоўных семінарыях, у тым ліку і ў славутай Жыровіцкай пад Слонімам, рэктарам якой зьяўляецца япіскап Канстанцін.**

Два тыдні таму Канстанцін наведаў Ліду. Паездка насіла не шараговы характар. Людзі кажуць, што адных толькі грошай на яго прыём настаяцель Сьвята-Георгіеўскай царквы айцец Аляксій патраціў тры мільёны. Ці дакладна гэта ці не, але ўжо 26 лістапада айцец Аляксій падчас службы выступіў з рэзкімі нападкамі на Лідзкую арганізацыю Беларускага Народнага Фронту. Каля 20 хвілін «сьвяты» айцец абліваў брудам БНФ і асабліва старшыню Лідзкай Рады Станіслава СУДНІКА, заклікаючы прыхаджан галасаваць на выбарах лепш за банкіраў і камуністаў, але ні ў якім разе не за СУДНІКА.

Чым жа не дагадзіў Станіслаў СУДНІК Канстанціну і Аляксію, што яны адважыліся парушыць усе законы і наўпрост з царкоўнага амбона кінуцца ў палітыку, каб дапамагчы «вертыкалі» і камуністам перамагчы БНФ. Аказваецца віна лідара Лідзкай Рады Фронту ні менш - ні больш, як у «расколе праваслаўя».

Аляксій абвінаваціў Фронт у падтрымцы «мяцежнай» парафіі Сьвятога вялікамучаніка і цаліцеля Панцелеймона і яе настаяцеля айца Васіля, які хоча толькі аднаго - служыць Богу, ацаляць душы людзкія і будаваць царкву і ня хоча адрачыся ад людзей і кінуць іх без пастыра на волю лёсу і чыноўнікаў ад Канстанціна. На самой жа справе Фронт - гэта арганізацыя палітычная, царква і касьцёл павінны быць па-за палітыкай. Сьферы дзейнасьці Фронту і царквы ніяк не павінны перасякацца, акрамя хіба як у абароне агульначалавечых каштоўнасьцяў і правоў. Фронт падтрымліваў і будзе падтрымліваць права кожнага чалавека маліцца ў той царкве, у якой хоча і спавядацца таму сьвятару, якому хоча. Гэта агульначалавечыя правы, і ніякі Канстанцін адмяніць іх ня можа, што і пацьвярджаюць вернікі.

Сёньня на службе ў Сьвятапанцеляймонаўскай царкве прыхаджан у 3-4 разы болей, чым у Сьвятагеоргіеўскай. Людзі мінаюць царкву, у якой іх вучаць за каго галасаваць, а за каго не, і ідуць туды, дзе ім дапамагаюць адкрыць душу перад Усявышнім, атрымаць суцяшэньне ў наш нялёгкі час, пазбавіцца сумненьняў і набрацца духоўнай моцы.

Расьце царква Сьвятога вялікамучаніка і цаліцеля Панцеляймона ў Лідзе. Заканчваюць аздабленьне ніжняга храма. Да каляд адбудзецца яго асьвячэньне. Разам з царквой расьце ў людзкіх душах вера ў Бога і заўтрашні дзень. І самі людзі растуць духоўна. Дык як можна назваць тых, хто замінае гэтаму росту, хто брудам, паклёпам, хлусьнёю залівае і так такую нялёгкую дарогу да Бога? Калі каму цяжка адказаць, падыйдзіце да магілак у Лідзе на вуліцы Савецкай, што каля «Лідсельмаша». Так выглядалі могілкі ў Берасьцейскай вобласьці пасьля шабашоў сатаністаў. У Лідзе сатаністаў няма. Ёсьць іншыя.

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

## СУМЕЖЖА

# СЕМІНАР У ГОРАДЗЕ КАПЕРНІКА

**З 20 па 25 лістапада ў Ольштыне праходзіў семінар «Функцыянаваньне мясцовага самакіраваньня ў Польшчы». Па запрашэньню арганізатараў ( Ольштынскага Цэнтру разьвіцьця мясцовай дэмакратыі і Фонду Стэфана Баторыя) у яго працы прыняла ўдзел дэлегацыя з Гарадзеншчыны, арганізаваная філіяй Фонду імя Льва Сапегі. У склад нашай дэлегацыі ўваходзіла 12 чалавек. Сярод іх - кіраўнік філіі сп. Тацьцяна Маліноўская, дэпутат Вярхоўнага Савету сп. Мікола Аксаміт, старшыня Ваўкавыскага гарсавету сп. Мікола Кавальчук, намесьнік дырэктара інстытута біяхіміі сп. Андрэй Майсяёнак, кандыдат гістарычных навук сп. Алесь Краўцэвіч ды іншыя.**


OLSZTYN - Ratusz

У першы дзень працы семінару яго



удзельнікі мелі магчымасьці пазнаёміцца з горадам, які мае надзвычай цікавую й багатую гісторыю. Упершыню ён узгадваецца ў 1353 годзе ў прывілеі вармінскай капітулы. Яе адміністратарам у 1516-19 і 1520-21 гадах быў Мікалай Капернік, рукамі якога выкананая астранамічная табліца, фрагмент якой да нашых дзён захаваўся ў старажытным крыжацкім замку. Непадалёк ад Ольштына знаходзіцца Грунвальд. У 1772 годзе ў выніку І падзелу Рэчы Паспалітай Аленштайн (гэтая назва існавала да 1945 года) адышоў да Прусіі. Пасьля І сусьветнай вайны на Вармії і Мазурах (рэгіёне, цэнтрам якога зьяўляецца Ольштын) быў праведзены плебісцыт, на якім большасьць насельніцтва выказалася за тое, каб застацца ў складзе Германіі. Пад час ІІ сусьветнай вайны савецкія войскі амаль цалкам зьнішчылі нямецкі горад. Сеньня ў Ольштыне амаль немагчыма спаткаць людзей, якія жылі тут да вайны. Асноўная частка насельніцтва прыехала на гэтыя ўрадлівыя землі пасьля вайны з іншых куткоў Польшчы, а таксама Летувы, Заходняй Украіны і заходняй Беларусі. Сеньня ў ваяводзтве жыве каля 60 тысячаў украінцаў, 40 тысячаў немцаў, 2-3 тысячаў беларусаў. Дарэчы, некаторыя выкладчыкі, якія праводзілі на семінары заняткі, мелі таксама беларускія карэньні.

Прагарама семінару была надзвычай насычанай. Удзельнікі гарадзенскай дэлегацыі даведаліся пра задачы і кампетэнцыю ворганаў самакіраваньня ў Польшчы, іх фунцыянаваньне, пра абавязкі дэпутатаў, пра тое, з чаго складаецца камунальная маёмасьць, бюджэт гміны. Надзвычай цікава праходзілі практычныя заняткі па інфармацыйнай палітыцы ворганаў самакіраваньня, якія праводзіла сп.Анна Мрувчыньска.

Вельмі карысными для ўдзельнікаў семінару былі заняткі на тэму стратэгічнага планаваньня, якія праводзіў адзін з лепшых польскіх сьпецыялістаў, дырэктар польскага агенцтва падтрымкі турызму ў Ольштыне сп. Богдан Камінські.

У праграме семінару было запланавана і знаёмства з дзейнасьцю Ольштынскага цэнтру разьвіцьця мясцовай дэмакратыі, які за некалькі гадоў існаваньня правёў аграмадную працу па падрыхтоўцы сьпецыялістаў для ворганаў мясцовага самакіраваньня, па павышэньню камунікацыйнай сувязі і г.д. Сеньня гэтая грамадзкая арганізацыя карыстаецца ў горадзе вялізным аўтарытэтам і вельмі важна таму для ўдзельнікаў семінару было пазнаёміцца з яе багатым досьведам працы.

Ня выключана, што вясной наступнага года ў Горадню прыедзе з адказным візітам дэлегацыя з Ольштына.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

## ПОЛЬШЧА

У нядзелю, 26 лістапада, ва ўсіх касьцёлах і каля іх быў арганізаваны збор сродкаў для дапамогі палякам за ўсходняй мяжой. Гэтая акцыя была зьдзейснена каталіцкай арганізацыяй «КАРЫТАС» пры садзейнічаньні ІІ канала TV, пад патранатам кардынала Юзэфа Глемпа. Сродкі будуць выкарыстаны для дапамогі грамадзянам, для асьветы, катэхізацыі, рэстаўрацыі сакральных аб'ектаў. Дапамога будзе накіравана ў першую чаргу ў Беларусь, Украіну, Расею і Казахстан, дзе, як лічаць, жыве каля 1 млн.200 тысяч палякаў.

***

У кляштары на Яснай Гужэ сустракалі прэзідэнта Леха Валэнсу, шахцёраў, актывістаў «Салідарнасьці». Пры сустрэчы ігумен айцоў паўлінаў Шчэпан Кросьнік сказаў, што брама кляштару заўсёды адчынена для паважанага прэзідэнта, які нароўні з папам Янам Паўлам ІІ зьяўляецца найвялікшым палякам усіх часоў, а таксама для ўсіх, хто кіруецца каталіцкай маральлю. У той жа час гэтая брама зачынена для атэістаў, прыхільнікаў абарцыі, ворагаў хрысьціянскіх каштоўнасьцей і ўсіх з-пад знаку «сярпа і молата».

**Ю.Г.**

# «ГРАБІНА» АНДРЭЯ ГАЎРЫЛЮКА

**Пра гэтага сьціплага, але надзвычай цікавага чалавека на Беларусі ведаюць адзінкі. Дый то завочна, дзякуючы беластоцкай «НІВЕ», на старонках якой можна сустрэць яго прозьвішча. Андрэй Гаўрылюк нарадзіўся ў Бельску-Падляскім у беларускай сям'і. Там жа скончыў школу. Па адукацыі - эканаміст. З 1986 года супрацоўнічае з «НІВАЙ», зьяўляецца яе карэспандэнтам. Сем гадоў таму, ажаніўшыся, пераехаў у Ольштын, дзе ўзначальвае зараз тэрытарыяльную раду Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня.**

Да канца гэтага года ў Ольштыне павінен убачыць сьвет VI сшытак матэрыялаў, сабраных сп.Гаўрылюком. На працягу апошніх гадоў ён зьбірае ўсю інфармацыю, якая зьяўляецца на старонках польскага друку пра Беларусь і пра беларусаў у Польшчы, а таксама іншыя матэрыялы, зьвязаныя з гэтай тэматыкай. Прыкра, што яго плённая праца не знайшла пакуль належнай ацэнкі на Беларусі. Спадзяемся, што частку матэрыялаў сшыткаў мы зможам апублікаваць у «ПАГОНІ».



А яшчэ Андрэй Гаўрылюк выдае газэту «ГРАБІНА», пра якую ў Беларусі амаль ніхто ня ведае. Сьціплая, невялікая па фармату «ГРАБІНА» прывабливае выключнай графікай інжынера Барыслава Рудкоўскага, прастатой і шчырасьцю нататак самаго рэдактара, разнастайным сьпектарам думак пра Беларусь і беларусаў, праблемы нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы. Пра сябе і пра сваю газету распавядае сам сп.Гаўрылюк.

- Нарадзіўся я ў Бельску-Падляскім у беларускай сям'і. Там, у Бельску, яшчэ ў часы камуны мы з Барыславам Рудкоўскім спрабавалі зрабіць нешта накшталт газеты, але часы былі неспрыяльныя. З 1986 года я пачаў супрацоўнічаць з беластоцкай «НІВАЙ». Зараз зьяўляюся яе карэспандэнтам.

Пераехаўшы ў Ольштын, адразу навязаў сувязі з беларускім студэнцкім рухам, які ўзначальваў у Ольштыне Уладзімір Пац. З цягам часу пачаў выпускаць і «МАЮ ГРАБІНУ» (так газэта называлася напачатку). Чаму «ГРАБІНА»? - Так называлася ўрочышча каля Бельска і Відава. Жыў калісьці там пан Грабіньскі. Па ваколіцах тых мясцін блукала тады дама ў белым, прывід якой часта палохаў нас, падлеткаў. Захаваліся там да гэтага часу чатыры 700-гадовыя дубы, якія надаюць мясьцінам надзвычайную адметнасьць і прыгажосьць. Так што для мяне мая «ГРАБІНА» атаесамляецца з маёй Айчынай...

Сапраўды, калі Радзіма - гэта ня нешта абстрактнае, а канкрэтны куток роднага краю, дарагія сэрцу ўспаміны дзіцячых гадоў, то вырачыся яе немагчыма, таксама як і бацькоўскай мовы. Шкада, што тым, хто выхаваны на словах песьні: «Мой адрес - не дом и не улица. Мой адрес - Советский Союз!» - гэтага не зразумець.

**В.Руднік.**

# БЕЛАРУСЫ ЗНОЎ АТРЫМАЮЦЬ ГУМАНІТАРНУЮ ДАПАМОГУ З ЗША

З 1 сьнежня гэтага года па 1 траўня наступнага ў Беларусі плануецца правесьці чарговую буйнамаштабную акцыю «НАДЗЕЯ-ЭКСПРЭС - 4». Тры папярэднія аналагічныя мерапрыемствы былі праведзены ў 1992-1994 гг. Мэта гэтай акцыі - аказаньне гуманітарнай дапамогі насельніцтву Беларусі, а таксама садзейнічаньне ў стварэньні і пашырэньні эфектыўнага ўнутранага рынку. Фундатарамі мерапрыемства выступаюць амерыканская арганізацыя «СІЦІХОЎП ІНТЭРНЭШНЛ» і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі. Чакаецца, што ў межах правядзеньня гэтай акцыі з ЗША для малазабясьпечаных жыхароў Беларусі надыйдзе вялікая колькасьць прадуктаў харчаваньня на суму 2,5 мільёна долараў.

# ЗЮГАНАЎ ЗА АДНАЎЛЕНЬНЕ ВЯЛІКАГА САЮЗУ

Добра вядомы ўсім правадыр камуністаў Расеі Зюганаў нядаўна выказаўся за аднаўленьне вялікага Саюзу, але не адразу. Ён паведаміў, што маецца канцэпцыя паэтапнага аб'яднаньня, якое будзе праходзіць, без прымяненьня сілы. Спачатку далучацца Беларусь, потым Украіна і Казахстан на эканамічнай аснове.

«Расея нікога сілком заганяць ня будзе, але магчымы эканамічны ціск» - лічыць сп.Зюганаў.

**С.Гарадзенскі.**

# ЗАМЕСТ СЫНА - 11 МІЛЬЁНАЎ

Адзінаццаць мільёнаў расейскіх рублёў... Ці пераканаюць яны беларускае грамадзтва ісьці ў абдымкі да Расеі?

Гэткую суму атрымалі бацькі Кулінковічы з г. Смалявічы за забітага сына ў Чачні, якога сюды прывезьлі ў труне 12.ІХ-95 г. Так, шкада маладога хлопца (асабіста знаёмы з яго бацькамі), а тым больш, за што загінуў далёка ад Беларусі, чые інтарэсы ахоўваў ён у Чачні? Ніякай пагрозы народ Чачні нікому з беларусаў не прад'яўляў, што беларус пайшоў забіваць іх, гэткіх самых, як ён.

Ці ня будзе так, што і чачэнец пойдзе забіваць на Беларусі беларусаў? І вынік, плача чачэнская маці па сваім забітым сыне нашымі беларусамі, плача і беларуская маці, што і яе сына забілі ў Чачні. Колькі іх, беларусаў, у трунах прывезьлі з Аўганістана, а цяпер вязуць з Чачні! Няўжо ў нас, беларусаў, гэткі розум вузкі, што служым імперыі рускай. Дык паслухайце,браточкі, гэткае вось парады, палюбіце свае куточкі, мову, строй, абрады.

**у.Гардзейка, пеньсіянер, ветэран працы.**

# ЛІТОЎСКІЯ ЎЛАДЫ ВЫЗВАЛІЛІ БЕЛАРУСКАГА КАМУНІСТА

20 лістапада літоўскія ўлады пад заклад у 5 тысяч долараў вызвалілі беларускага грамадзяніна Івана Кучарава, які з 1993 года знаходзіўся ў літоўскай турме за спробу ў студзені 1991 года зьвяржэньня законнага Ураду Летувы.

Каментуючы вызваленьне свайго таварыша па партыі, адзін з лідараў беларускіх камуністаў Віктар Чыкін заявіў: «Мы дзякуем беларускаму прэзідэнту за тое, што ён зьвярнуўся да праблемаў камуністаў тварам . Хадайніцтва Лукашэнкі па вызваленьню Кучарава яшчэ раз сьведчыць, што Лукашэнка наш чалавек

**СІМ**

# СВАБОДУ ДЛЯ БЕЛАРУСІ!

У той час, як нашае грамадзтва паступова каціцца да стану жабрацкай абыякавасьці да ўсяго, акрамя капейкі на хлеб, нашыя суайчыньнікі, якія волей лёсу апынуліся за мяжой, ня могуць зьмірыцца з тым, што адбываецца ў нашай краіне. І гэта ня дзіўна, бо людзі, спазнаўшыя волю, ніколі ня зьмірацца з няволей другіх людзей. Тым больш - суайчыньнікаў. Яскравым сьведчаньнем гэтага зьяўляецца пратэст Тэрытарыяльнай Рады беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня ў Ольштыне супраць дзейнасьці прэзідэнта Лукашэнкі ў суверэннай Беларусі, надрукаваны ў адным з нумароў «Dziennika pojezierza». У ім, між іншым, гаворыцца:

«Тое, што чыніць прэзідэнт у вольным краі, Беларусі, ня месьціцца ў галаве. Можа, прэзідэнт хоча распачаць другую Чачню? Так робяць толькі расейскія нацыяналісты. Гэты шлях нікуды не прывядзе, шаноўны спадар прэзідэнт!

Больш волі і дэмакратыі!Вольная Беларусь пад штандарамі Пагоні!»

**В.М.**

